РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 55 (7868) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 19 ліпеня 2000 г. Цана 25 руб.



РАЁННЫ СЕМІНАР: ЛЕПШЫЯ ПРЫКЛАДЫ

## ПРА ЗБОЖЖА, МАЛАКО І МЯСА

На мінулым тыдні адбыўся раённы сельскагаспадарчы семінар, аб чым коратка паведамлялася ўжо ў нашай газеце. Зараз жа мы раскажам пра яго больш падрабязна.

Для ўдзелу ў семінары былі запрошаны старшыні, галоўныя інжынеры, аграномы, бухгалтары, эканамісты, зоаветспецыялісты калгасаў, кіраўнікі прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў. Ён быў арганізаваны райвыканкамам і ўпраўленнем сельскай гаспадаркі і харчавання.

Прысутнічалі члены раённага выканаўчага камітэта, прэзідыума райсавета. У рабоце семінара прыняў удзел старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў.

Разглядаліся дзве важнейшыя надзённыя праблемы: аб падрыхтоўцы тэхнікі і арганізацыі ўборкі ўраджаю збожжавых і іншых культур, аб правядзенні пашавага ўтрымання жывёлы і рабоце па ўзнаўленню статка. Усюды паказваўся станоўчы практычны вопыт, адзначаліся і недахопы.

Удзельнікі семінара працавалі дзвюма групамі, у адпаведнасці з тэматыкай. Адна з іх, куды ўвайшлі кіраўнікі, спецыялісты, напачатку прыбыла ў ААТ "Касцюковіцкае райаграпрамтэхэнерга". Тут госці агледзелі падрыхтаваны да работы загерметызаваны збожжавы камбайн "Дон-1500". Іх увага была сканцэнтравана на недапушчэнні страт зерня ў час уборкі.

Неабходныя рэкамендацыі, тлумачэнні даў намеснік начальніка райсельгасхарчу па механізацыі Леанід Ус. Ён падкрэсліў, у прыватнасці, што герметызацыя камбайнаў непарыўна звязана з іх рэгуліроўкай і настройкай. Леанід Васільевіч паказаў практычна, як гэта робіцца.

Як вядома, камбайн маркі "Дон-1500" можа губляць тры і больш цэнтнераў зерня на гектары. Калі мець на ўвазе, што сярэдняя ўраджайнасць збожжавых 20 цэнтнераў, а ўборачная плошча складае некалькі тысяч гектараў, няцяжка падлічыць, якія могуць быць страты. У выпадку ж іх недапушчэння можна "знайсці" тысячы тон збожжа. Гэта і з'яўляецца галоўнай задачай.

Работнікі ўпраўлення асобна правodзілі заняткі з спецыялістамі эканамічнай службы калгасаў. На стэндзе была прадстаўлена адпаведная дакументацыя.

Потым намеснік начальніка райсельгасхарчу па эканоміцы Алена Шуст выступіла перад усімі ўдзельнікамі групы. Яна расказала аб арганізацыі ўліку прадукцыі, аплаце працы камбайнераў, механізатараў, прэміяванні за лепшыя вынікі згодна з умовамі спаборніцтва. Грашовая аплата і прэміі будуць залежаць ад ураджайнасці, намалотаў, якасці ўборкі, дысцыпліны людзей і іншых паказчыкаў. У аснову бяруцца рэкамендацыі Мінсельгасхарчу. Прадугледжваецца і выдача зерня.

Да кіраўнікоў калгасаў, прадпрыемстваў і арганізацый, спецыялістаў звярнуўся М. Р. Барысаў. Ён сказаў, што наступае вельмі адказны перыяд у жыцці сельскіх працаўнікоў – уборка ўраджаю. Хлеб – гэта палітыка і эканоміка, наша будучае. Таму і сяляне, і гараджане павінны зрабіць усё, каб добра падрыхтаваць усю ўборачную тэхніку, арганізавана і якасна правесці жніво. Агляд гатоўнасці будзе ажыццёўлены ў калгасах у бліжэйшы час. Да ўборкі азімых застаюцца лічаныя дні. Райвыканкам дасць адпаведную ацэнку работы кадраў па яе выніках.

Удзельнікі семінара па ўборцы збажыны наведалі тры гаспадаркі раёна. У калгасе "Парыжская камуна" яны цікавіліся станам набору ўборачнай тэхнікі. Тлумачэнні даваў яго кіраўнік Аляксандр Міхеенка. З 6 камбайнаў тут былі спраўныя тады 3. Па словах старшыні, астатнія будуць гатовы праз тры-чатыры дні. Нагрузка на камбайн у калгасе вялікая, камбайнерам давядзецца напружана папрацаваць.

Падрыхтавалі калгасныя механізатары прэсы, стагакіды. Першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў заўважыў, што трэба сабраць з палёў і застагаваць, зберагчы ўсю салому. Гэта ў першую чаргу корм, а яго ў апошні час вельмі не хапала. Трэба паставіць некалькі трактароў на ворыва глебы пад азімыя.

Калгас "Прагрэс" не паспеў падрыхтаваць да дня прыезду гасцей толькі два камбайны. Старшыня гаспадаркі Фёдар Жукаў растлумачыў, што механізатары заняты нарыхтоўкай кармоў. Ды і інжынерная служба не вырашыла ўсе пытанні тэхнічнага характару. Аднак, недаробкі будуць аператыўна ліквідаваны. Аўтамабілі ўшчыльнены.

Тут жа закранута праблема ўборкі кукурузы. Намячаецца ўбіраць яе сіламі чатырох механізаваных атрадаў, што ствараюцца ў абслугоўваючых сельскую гаспадарку арганізацыях. Калгасы "Прагрэс" і "Дуброва" справяцца з закладкай сіласу самі, бо маюць тэхніку. Важна, падкрэсліў В. Л. Грышанаў, не пакінуць без увагі інжынерных спецыялістаў і механізатараў кукурузныя жняяркі, хаця паралельна будзе ісці жніво. Гэтыя прылады варта своечасова адрамантаваць.

Старшыня калгаса "Дуброва Уладзімір Казлоў далажыў прыбыўшым сюды ўдзельнікам семінара аб гатоўнасці гаспадаркі да жніва. Падрыхтаваны ачышчальна-сушыльны комплекс, большасць камбайнаў. Астатнія з іх – у завяршальнай стадыі рамонту. Створана механізаванае звяно па ўборцы саломы. Паколькі тэхнікі мала, прыцягваецца брыгада работнікаў з Брэсцкай вобласці па найму. Для перавозкі збожжа будуць выкарыстоўвацца ўласныя аўтамашыны.

Уборачная плошча збожжавых сёлета ў калгасе складае 1713 гектараў. Па папярэдніх падліках, валавы збор збожжа складзе не менш, чым 4 тысячы тон.



У калгасе сістэматычна вядзецца ворыва глебы пад пасеў азімых культур ураджаю будучага года.

Удзельнікі семінара пабывалі на палях гэтага калгаса. Яны цікавіліся станам даспяваючай азімай пшаніцы, пасевамі ячменю.

Другая група, куды ўваходзілі галоўныя ветурачы і заатэхнікі, спецыялісты райсельгасхарчу, цікавілася перадавой практыкай у жывёлагадоўлі. Вёў гэту частку семінара першы намеснік начальніка сельгасупраўлення Віталь Нямёнкін.

Удзельнікі мерапрыемства наведалі калгас "Прагрэс". Яны сталі сведкамі добрай арганізацыі пасьбы цялушак для аднаўлення статка. Прымяняўся электрапастух. Жывёла пасвілася на атаве, забяспечвалася вадой, соллю.

Па-гаспадарску аднесліся да пасьбы кароў у калгасе "Новае жыццё". Статак Прусінскай фермы ахвотна паядаў маладую траву на культурнай пашы. Ён забяспечваўся таксама ўсім неабходным. Надоі малака ў гаспадарцы зараз высокія.

В. П. Нямёнкін сказаў, што кіраўнікі і спецыялісты павінны стварыць непадалёк ад кожнай фермы культурную пашу. З мэтай ранняй пасьбы статкаў неабходна пасеяць спецыяльна на корм для жывёлы не менш чым па 30 гектараў азімых ва ўсіх гаспадарках. Сёлета была недабрана прадукцыя таму, што жыта на корм выкарыстана мала. Яно пераведзена аграномамі ў збожжавую групу.

На Нізькаўскай ферме калгаса "Ленінскі шлях" госці ўбачылі падрыхтаваны да зімы кароўнік. Тут усё прыбрана, пабелена і прадэзінфіцыравана.

Была засяроджана ўвага спецыялістаў, каб не пазней 1 верасня 2000 года ў кожным калгасе правялі аналагічную падрыхтоўку ферм. Неабходныя матэрыялы завозяцца. Гэта дапаможа разарваць інфекцыйны ланцуг захворванняў жывёлы.

Пры завяршэнні агляду аб'ектаў В. П. Нямёнкін патрабаваў ад спецыялістаў добрай арганізацыі пасьбы цялушак. Толькі пры такой умове жывёла дасць высокую прывагу і будзе своечасова ўведзена ў статак.

**На здымках: у час семінара ў калгасе "Дуброва".**

**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

# Як спыніць негатыўныя працэсы?

**(З РАЁННАЙ ВЫТВОРЧАЙ НАРАДЫ)**

Пасля семінара кіраўнікі калгасаў, раённых служб, спецыялісты, работнікі ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання сабраліся ў зале пасяджэнняў райвыканкама. Тут адбылася вытворчая нарада, на якой падведзены вынікі работы жывёлаводаў раёна за першае паўгоддзе 2000 года і намечаны задачы па далейшаму развіццю галіны. Вёў нараду старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў. Удзельнічалі ў яе рабоце члены райвыканкама.

З інфармацыяй выступіў першы намеснік начальніка райсельгасхарчу Віталь Нямёнкін. Ён сказаў, у прыватнасці, што заданне па выхадному пагалоўю буйной рагатай жывёлы гаспадаркі раёна не выканалі. Па стану на 1 ліпеня г.г. у калгасах было 17692 галавы жывёлы, у той час як неабходна мець 18164. Акрамя таго, колькасць жывёлы на фермах знізілася на 9 працэнтаў у параўнанні з папярэднім годам.

Кіраўнікі і спецыялісты калгасаў не выкарысталі магчымасць, якая мелася, для павелічэння пагалоўя. Недастаткова быў арганізаваны закуп цялят у насельніцтва. Напрыклад, у калгасе імя Калініна закуплена ўсяго 36 галоў маладняку, а было заключана дагавораў на закуп больш як 60 цялят. У гаспадарцы менш атрымана прыплоду. Не выпадкова пагалоўе знізілася на 23 працэнты супраць мінулагодняга. Аналагічнае становішча ў калгасах "Бароньκі", імя Карла Маркса, "Ленінскі шлях", "Новы быт", "Новае жыццё".

Былі некаторыя аб'ектыўныя прычыны, якія перашкаджалі весці закуп. Перш за ўсё, гэта адсутнасць крэдытаў. Зараз яны часткова атрыманы. У калгасах будзе збожжа новага ўраджаю. Таму ёсць магчымасць папоўніць пагалоўе жывёлы, і яно павінна быць усюды аднаўлена ў адпаведнасці з заданнямі райвыканкама.

У калгасах раёна налічваецца 6494 галавы свіней, або 53 працэнты да мінулагодняга паказчыка. Павелічэнне пагалоўя ідзе ў адпаведнасці з распрацаванай праграмай развіцця галіны і заданнем. Аднак, у шэрагу гаспадарак яны зрываюцца. Скажам, у калгасе "Прагрэс" засталося ўсяго 497 свіней пры заданні 660. Асноўная прычына ў тым, што праўленне калгаса значную частку атрыманых парасят дазволіла прадаць.

Як адзначалася, па-ранейшаму застаюцца вельмі нізкімі сярэднясутачныя прывагі жывёлы. Не дасягнуты ў раёне намечаны ўзровень валавай прывагі. Ажыццёўлена міжгаспадарчая кааперацыя па адкорму буйной рагатай жывёлы. Асноўнае адкормачнае пагалоўе сканцэнтравана на комплексах калгасаў "Ленінскі шлях", "Парыжская камуна", "Новы быт". Калі за 5 месяцаў года прывага на гадоўлі і адкорме ў раёне была вышэйшай чым летась, дык у чэрвені яна знізілася на 22 грамы. Вінаватыя – адкормачныя гаспадаркі. Тут не арганізавалі як след кармленне жывёлы. У калгасе "Ленінскі шлях" у чэрвені атрымана ўсяго 142 грамы прывагі, а трэба было мець не менш 600 грамаў. Тое ж можна сказаць і пра калгасы "Новы быт", "Парыжская камуна". Для параўнання: на адкорме ў калгасе "Дуброва" атрымана 580 грамаў, "Прагрэс" – 406 грамаў.

*(Працяг на 2 стар.)*

### *Да ўвагі жыхароў раёна!*

***20 ліпеня 2000 года*** *ў райвыканкаме, у кабінеце старшыні раённага выканаўчага камітэта, будзе весці прыём грамадзян* ***ТАЎПЯНЕЦ Эдуард Фёдаравіч*** *– прэзідэнт канцэрна па паліву і газіфікацыі Рэспублікі Беларусь.* ***Час прыёму – з 14 гадзін.***

*Ажыццяўляецца папярэдні запіс насельніцтва на прыём у прыёмнай райвыканкама і ў аддзеле інфармацыі.*

***Тэлефоны: 22-875 і 21-309.***

***РАЙВЫКАНКАМ.***

# ПЕДАГАГІЧНЫ СТАЖ — 30 ГАДОЎ

*Яна першай зайшла ў кабінет. Адразу паспяшалася да люстэрка, каб паправіць прычоску, бо свавольнік-вецер добра пагуляў у яе кучаравых валасах.*

*Уважліва ўглядаецца яна ў рысы свайго твару. "Яшчэ адна няпрошаная маршчынка праляглa ад кутка вачэй, — заўважыла Тамара Прохараўна Ціханава і ўсміхнулася. – Яшчэ адну метку зрабіла жыццё". І як толькі ў кабінет пачалі заходзіць супрацоўнікі, яна вітаецца, забывае пра свае хваляванні, стрыманая ўсмешка асвятляе яе твар. Побач з гэтым умудроным жыццёвым вопытам чалавекам адчуваеш сябе спакойна, упэўнена. Гэтаму вучыць яна сваіх маладых супрацоўніц, бо жыццёвая школа не песціла яе.*

*Нарадзілася Т. П. Ціханава ў вёсцы Бялынкавічы. Калі сям'я пераехала ў горад, яна стала вучаніцай сярэдняй школы № 1. Пасля была студэнткай хіміка-біялагічнага факультэта Гомельскага педагагічнага інстытута. Працаваць настаўніцай біялогіі і хіміі Тамара Прохараўна прыехала ў свой раён. А дакладней яе прызначылі настаўніцай вячэрняй школы. Праз некаторы час ёй прапанавалі пасаду інспектара раённага аддзела адукацыі. Яна лічыла, што яшчэ не дастаткова практычнай работы, каб займаць такую пасаду. Аднак старэйшыя калегі пераканалі яе. Так Т. П. Ціханава стала інспектарам раённага аддзела адукацыі.*

*Трыццаць гадоў прайшло з таго часу. З цеплынёй успамінаюць яе ў настаўніцкіх калектывах, дзе па абавязку службы ёй даводзілася бываць. Яе парады, прапановы, як палепшыць той ці іншы напрамак работы з дзецьмі, заўсёды абгрунтоўваліся прыкладамі з школьнага жыцця і давалі станоўчыя вынікі.*

*Тамара Прохараўна праводзіць метадычную работу з настаўнікамі хіміі і біялогіі. Яна шукае новыя метады выкладання тэмы.*

*Працяглы час Т. П. Ціханава праводзіла работу па аздараўленню дзяцей. Вядома, той хто не сутыкаўся ў гэтым, палічыць, што працей справы і не можа быць. Толькі гэта памылковае меркаванне. Колькі даводзіцца іншы раз патраціць нерваў на размовы з бацькамі рабят, якія жывуць на пацярпеўшай ад аварыі на ЧАЭС тэрыторыі. Рабятам трэба абавязкова праходзіць два разы ў год аздараўленне, а бацькі іх не пускаюць у санаторыі, маўляў, трэба дапамагаць па гаспадарцы.*

*Знаходзячыся побач з гэтай жанчынай, у многім хочацца быць падобнай на яе. Колькі добрых парад дала яна маладым калегам. І з якім бы пытаннем не звярнуўся да Тамары Прохараўны, яна знойдзе час, каб дапамагчы. У кожным з маладых калег яна бачыць сваіх дзяцей і імкнецца па-мацярынску зразумець кожнага і ў патрэбную хвіліну аказацца побач.*

*Прайшло тры дзесяцігоддзі. Колькі маладых педагогаў адкрыта глядзелі ёй у вочы, уважліва ловячы кожнае слова. Усе яны ўдзячны Тамары Прохараўне.*

***Валянціна ДЗЯНІСАВА,***
***метадыст аддзела адукацыі.***



***На здымку: Т. П. ЦІХАНАВА.***
***Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.***

# Як спыніць негатыўныя працэсы?

***(Заканчэнне. Пачатак на 1 стар.)***

Нізкая прывага цялят у калгасах "Смолькі", "Новае жыццё". Асаблівую трывогу спецыялістаў і жывёлаводаў выклікаюць нізкія сярэднясутачныя прывагі рамонтных цялушак. Прыбаўка склала 325 грамаў па раёну. Значна ніжэйшай яна была ў калгасах "Смолькі", "Расія", імя Карла Маркса. Жывёлаводы калгасаў "Кранштат" і "Дуброва" ў чэрвені забяспечылі сярэднясутачную прыбаўку адпаведна 474 грамы і 346 грамаў.

На нізкім узроўні вядзецца работа па ўзнаўленню статка ў некаторых гаспадарках. Выхад цялят на сто кароў і цялушак склаў па раёну 54 галавы, або на 7 галоў менш, чым летась. Па даных райплемстанцыі за паўгоддзе намячалася атрымаць 3847 цялят, прынята ж 3700 галоў. Гэта склала 83 працэнты да вынікаў папярэдняга года.

За 6 месяцаў толькі па 47 цялят было атрымана ў калгасе "Ленінскі шлях", 43 – імя Карла Маркса, 44 – "Кранштат", 46 – "Смолькі".

Недастаткова ўдзяляецца ўвагі захаванню жывёлы. З пачатку года павялічылася непрадукцыйнае выбыццё яе. У калгасе імя Калініна яно склала больш як 57 працэнтаў ад прыплоду, "Новы быт" – 46,1, "Смолькі" – 40,9 працэнта. Гэта здарылася ў выніку таго, што не арганізавана правільнае кармленне маладняку, парушалася схема выпайкі. За дапушчаныя недахопы старшыні калгасаў "Новы быт" Віталь Шышоў, імя Калініна Людміла Пратасава, зоаветспецыялісты гэтых гаспадарак прыцягнуты да матэрыяльнай адказнасці. Рыхтуецца адпаведны матэрыял для разгляду на калегіі райсельгасхарчу і прыняцця мер.

Згодна з інфармацыяй, у калгасах раёна за паўгоддзе надоена 5703 тоны малака. Гэта склала 89 працэнтаў да мінулагодняга надою. У чэрвені жывёлаводы калгасаў надаілі 1653 тоны малака, або амаль столькі ж, як і летась у гэтым месяцы. Калгасы "Баронькі", "Прагрэс", "Новае жыццё" павялічылі вытворчасць малака. Гаспадаркі "Ленінскі шлях", "Расія", наадварот, яе знізілі. Галоўная прычына – парушэнне тэхналогіі. На калегіі райсельгасхарчу ў пачатку ліпеня разгледжаны паказчыкі калгасаў імя Карла Маркса, "Ленінскі шлях", "Смолькі". Кіраўнікі і спецыялісты падвергнуты крытыцы за зніжэнне вытворчасці прадукцыі. Старшыні калгаса "Ленінскі шлях" Мікалаю Таўпеку і галоўнаму заатэхніку Іне Балотнікавай аб'яўлены вымовы і дадзены тыднёвы тэрмін, каб вытворчасць малака была выведзена на мінулагодні ўзровень.

Што датычыць прадуктыўнасці дойнага статку, яна крыху павялічылася ў чэрвені. Ёсць усе магчымасці дабіцца істотнай прыбаўкі надояў у ліпені г.г. Шкада, што тэхналагічныя патрабаванні не ўсюды добрасумленна выконваюцца. Так, у калгасах "Баронькі" самавольна спынілі начную пасьбу кароў, "Расія" праігнаравалі трохкратнае даенне жывёлы. Безумоўна, зараз прыходзіцца гэтым кіраўнікам аднаўляць работу ў неабходным рэжыме і заваёўваць дасягнутыя раней пазіцыі. Інакш і быць не можа, бо адбылося рэзкае падзенне валавага надою малака.

,Закранаючы пытанні работы па ўзнаўленню статка, Віталь Нямёнкін заўважыў, што яна недаацэньваецца. Гэта прывяло да сумных вынікаў. У калгасах "Ленінскі шлях", "Забычанне" зусім няма цельных цялушак, а ў шэрагу гаспадарак налічваюцца адзінкі племяннога маладняку. Цялушак амаль усюды чамусьці дрэнна кормяць. Яны даюць нізкую прывагу. У выніку расцягваецца перыяд гадоўлі. Напрыклад, у калгасе "Праўда" цяпушкі 1998 года нараджэння павінны злучацца сёлета. Аднак яны маюць жывую вагу 210 кілаграмаў. Падобны малюнак у калгасах "Новае жыццё", імя Карла Маркса, "Баронькі".

Не ўдзяляецца дастатковай увагі падрыхтоўцы ферм да зімы. Ужо два месяцы пустуюць памяшканні ў калгасе "Расія". Але іх рамонтам і дэзінфекцыяй ніхто не займаецца. Гэта, на жаль, не адзінкавы прыклад. Усім калгасам неабходна да 1 верасня бягучага года завяршыць рамонт жывёлагадоўчых памяшканняў.

На нарадзе заслуханы тлумачэнні кіраўнікоў калгасаў "Забычанне" Рыгора Чэпікава, "Ленінскі шлях" — Мікалая Таўпекі, "Новы быт" – Віталя Шышова, "Смолькі" – Уладзіміра Барысенкі, "Прагрэс" – Фёдара Жукава, а таксама спецыялістаў.

Указвалася, што ў раёне ёсць нявырашаныя пытанні па арганізацыі закупу малака ў насельніцтва. У разліку на карову зараз нарыхтоўваецца толькі па 2,5 кілаграма, што ніжэй сярэдняабласнога паказчыка. Вясковыя жыхары скардзяцца, што не наладжаны збор малака, несвоечасова праводзіцца аплата за яго. Кіраўнікі калгасаў, старшыні сельскіх Саветаў абавязаны неадкладна выправіць становішча. З удзельнікамі нарады абмеркаваны і іншыя пытанні. Завяршаючы размову, старшыня райвыканкама М. Р. Барысаў патрабаваў ад гаспадарнікаў зрабіць усё для выканання пастаўленых задач. У аблвыканкаме кіраўніцтва райсельгасхарчу падвяргалася рэзкай крытыцы за атрыманыя нізкія прывагі жывёлы ў калгасах раёна. Трэба ўхіліць недахопы на фермах і дабіцца павышэння прадуктыўнасці пагалоўя на гадоўлі і адкорме.

Звярталася ўвага кіраўнікоў калгасаў на недастатковую пакуль забяспечанасць жывёлы кармамі. Неабходна выкарыстаць усе рэзервы для папаўнення запасаў сена, сенажу, сіласу. Дарэчы, у некаторых гаспадарках парушалася тэхналогія кормавытворчасці. Таму якасць нарыхтаваных кармоў нізкая. Такія факты не павінны паўтарацца.

На пастаўленыя пытанні кіраўнікоў калгасаў, арганізацый былі дадзены адказы.

## ЗАКОН И ПОРЯДОК

# ХАЛАТНОСТЬ НАРУКУ ВОРАМ

Кражи государственной собственности в наше время не являются редкостью. И ворам в большинстве случаев играют наруку необеспеченность сохранности добра, халатность. Анализ результатов общенадзорных прокурорских проверок исполнения законодательства о сохранности собственности, кормов, скота и другой сельскохозяйственной продукции, а также материалы уголовных дел свидетельствуют о том, что правлениями большинства колхозов района не уделяется должного внимания созданию надлежащих условий для сохранности государственной собственности.

В колхозах имени Карла Маркса, "Родина", "Новый быт", "Дуброва" и других не однажды уже имели место случаи хищения скота, кормов и другой продукции сельскохозяйственного производства. Так, 22 апреля минувшего года в колхозе им. К. Маркса Л. В. Терещенко совместно с В. В. Бакановым и Н. С. Листратенко из зерносклада д. Журбин похитили 1,210 килограмма семян кормовой свеклы. На следующий день Н. С. Листратенко из этого же склада вынес еще 0,680 килограмма семян кормовой свеклы, а В. В. Баканов – 0,560.

По фактам проверки выявилось, что указанные хищения стали возможными потому, что подсобное помещение склада, где хранились дорогостоящие семена свеклы, на замок не закрывалось и посторонние лица могли беспрепятственно проникать в него. Руководство же колхоза никаких мер по укреплению помещения не принимало.

По вине материально ответственных лиц было совершено и хищение муки со склада МТФ этого колхоза. В том же апреле месяце 1999 года Н. Е. Подлас, Н. В. Ларченко и А. А. Ковалев, воспользовавшись тем, что окошко, из которого отпускается мука, не было закрыто на замок, проникли в помещение склада и похитили 24,5 килограмма фуражной муки.

Зачастую совершению краж способствует и недобросовестное отношение к исполнению своих обязанностей со стороны сторожей.

23 апреля 1999 года А. А. Саверченко, будучи в нетрезвом состоянии, предварительно сговорившись с Н. В. Маленковым, из помещения МТФ д. Селецкое похитили хомут стоимостью 3500000 неденоминированных рублей. Как видно из материалов дела, сторож на ферме в это время отсутствовал.

Н. С. Листратенко, уже будучи судимым за хищение, но урок, как видно, не пошел впрок, вновь занялся воровством. Из буртов кормовой свеклы похитил два мешка её и на санках отвез домой. Затем, вернувшись назад, снова набрал два мешка. Всего таким образом он похитил 90 килограммов свеклы. Бурты сторожами не охранялись.

Нередко хищения совершают ранее судимые лица, работающие на фермах и получающие материальные ценности на подотчет. Так, П. Г. Кривошеев, ранее судимый, с В. С.Чехуновым на складе д. Журбин получили 98 килограммов фуражной муки в 4-х мешках для телят. По пути на ферму похитили один мешок.

В колхозе "Родина" А. М. Баранов по предварительному сговору с Завершинских и Кундалевой, воспользовавшись отсутствием ночного сторожа, из склада похитили тонну семенного зерна.

Имеют место случаи, когда хищения совершают лица, в чьи обязанности вменена охрана материальных ценностей. И. А. Васильченко, ранее судимый за корыстное преступление, работал сторожем МТФ д. Демидовичи. 18.12.99 г. похитил 30 литров молока. В ночь на 16.02.2000 г. вновь совершил хищение 20 литров. По фактам краж было возбуждено уголовное дело, однако и после этого И. А. Васильченко остался работать сторожем.

Не уделяется должного внимания созданию надлежащих условий для сохранности государственной собственности и правлением колхоза "Новый быт". Ю. М. Садков, А. М. Подобед и А. М. Голубцов 18 декабря 1999 года проникли в склад колхоза, откуда похитили 6 мешков ячменя. 5 января этого года Ю. Садков и А. Подобед вновь наведались в этот склад и вынесли еще 6 мешков. 6 января Ю. Садков совершил кражу одного мешка комбикорма и мешка зерна. На следующий день уже втроем Ю. Садков, В. Садков и несовершеннолетний В. Ларченко из этого же склада уворовали 10 мешков зерна.

По всем фактам были возбуждены уголовные дела. Виновные осуждены. Предварительное следствие показало, что склад охранялся сторожами. Однако они недобросовестно относились к своим обязанностям, в результате чего и произошли эти кражи. К тому же они своевременно не были выявлены и предотвращены, несмотря на то, что совершались кражи из одного и того же склада в течение двух недель и похищалось значительное количество зерна.

Условием, способствующим совершению указанных хищений, послужила слабая техническая укрепленность зерносклада. Вначале преступники проникли через дверь в склад, воспользовавшись отсутствием надежных запоров. В последующем они пользовались вентиляционным отверстием на крыше склада. Ранее таким же образом уже совершались хищения из этого склада, однако руководством колхоза не были приняты меры к оснащению вентиляционного отверстия решеткой и укреплению дверных запоров склада.

В колхозе "Дуброва" установлены факты грубого нарушения законодательства о сохранности собственности, распространения хищения сельхозпродукции, других материальных ценностей.

Неустановленные преступники путем подбора ключа в ночь на 17.01.99 года проникли в сарай СТФ д. Клеевичи и похитили 5 поросят. В ночь на 4.08.99 г. неизвестными было похищено 6 поросят.

Эти преступления стали возможными в результате ненадлежащей обеспеченности ферм сторожевой охраной.

Наряду с хищением скота имеют место кражи кормов. С. В. Крымков, ранее судимый за хищение, совместно с В. В. Крымковым проникли в складское помещение колхоза, откуда похитили 43 килограмма муки. И. В. Шандобыло, работая на СТФ, постоянно похищал муку. А. Г. Чукило, будучи ранее судимым, также проник в склад колхоза, откуда похитил 43 кг. комбикорма.

Причина всё та же – отсутствие контроля, халатное отношение к своим обязанностям материально-ответственных лиц (зав. фермами, зав. складами, сторожей).

Но в большей степени вина здесь и руководителей хозяйств. Небрежное или недобросовестное отношение должностного лица к служебным обязанностям выражается в невыполнении их, или в выполнении ненадлежащим образом. Если неисполнение или ненадлежащее исполнение должностными лицами возложенных на них служебных обязанностей повлекло причинение особо крупного ущерба или существенного вреда правам и законным интересам граждан или государства, то эти действия образуют состав уголовно наказуемого деяния, предусмотренного ст. 168 УК РБ – халатность.

Это преступление влечет наказание в виде лишения свободы на срок до 3 лет или исправительной работы до 2 лет, или увольнение с должности.

Наиболее распространенными формами преступно-халатного отношения к исполнению служебных обязанностей являются: небрежное отношение материально ответственного лица к приему и отпуску материальных ценностей, приведшее к недостаче или порче; отсутствие надлежащего учета и контроля за расходованием материальных ценностей, следствием чего явились хищения и недостачи; отсутствие должной заботы со стороны руководителей колхозов об обеспечении кормами скота, повлекшее падеж скота и др.

Поэтому, садясь в кресло руководителя, необходимо помнить прежде всего, как не навредить правам и законным интересам граждан, государства и до конца оставаться добросовестным, честным, вдумчивым, заботливым, распорядительным и ответственным при исполнении служебных обязанностей.

**Наталья ЛОСЕВА,**
**помощник прокурора.**

## Пазнаем прыроды свет

*Кіраўнік школьных лясніцтваў, інжынер-лесапатолаг лясгаса Ніна Елісеенка апантаны ў сваёй справе чалавек. Менавіта дзякуючы ёй рабяты – члены школьных лясніцтваў – сапраўды пазнаюць свет прыроды. Пры яе актыўным удзеле праводзяцца шматлікія і вельмі цікавыя, і ў той жа час пазнавальныя мерапрыемствы, вікгарыны, конкурсы. Яна арганізоўвае паходы і сама суправаджае рабят у розных экскурсіях па запаведных мясцінах, не лічачыся з асабістым часам. Такіх людзей, як Ніна Пятроўна, не шмат, і рабятам вельмі пашчасціла, што на іх шляху сустрэўся такі чалавек. Яе несумненны ўклад ёсць у тым, што больш за дваццаць рабят выбралі прафесію лесавода.*

*А нядаўна, таксама дзякуючы Ніне Пятроўне і, вядома ж, кіраўніцтву лясгаса, 11 членаў школьных лясніцтваў пабывалі ў Раўбічах. На летніх зборах навучэнцаў Беларускай Малай лясной завочнай акадэміі. Н. Елісеенка з гэтай установай падтрымлівае цесную сувязь. На прапанову прыняць удзел у летніх зборах адклікнулася з гатоўнасцю і прыклала ўсе намаганні, каб на іх трапілі юныя лесаводы Касцюкоўшчыны.*

*І вось яны ў Раўбічах. Суправаджала рабят, як заўсёды, Ніна Пятроўна. Незабыўнае відовішча. Рабяты зазірнулі ў сваё жаданае будучае – сталі на час сапраўднымі студэнтамі лесагаспадарчага факультэта. Патрабаванні да іх былі прад'яўлены сур'ёзныя, прыйшлося забыць пра сон і з самай раніцы штудзіраваць падручнікі, затым практычныя заняткі і лекцыі.*

*Нялёгка было сумяшчаць напружаную вучэбную праграму і экстрэмальныя ўмовы пражывання (палатачны гарадок, не песціла надвор'е).*

*З хваляваннем атрымалі першакурснікі сапраўдную залікову кніжку і першыя адзнакі. Несумненна, гады навучання ў акадэміі даюць школьнікам неабходны вопыт, здольнасць самастойна скласці курсавы праект, сабраць гербарый.*

*Радуе тое, што акадэмія сабрала з усёй рэспублікі сапраўдных аматараў лесу, аднадумцаў, якія ўжо ў школе выбралі сабе будучую прафесію.*

***Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.***




## Расстаемся, але не развітваемся

2000 год стане для лясгаса памятным і, магчыма, увойдзе ў яго гісторыю неардынарнай, знамянальнай падзеяй. Менавіта летам гэтага года адбыўся першы выпуск у сярэдніх школах членаў школьных лясніцтваў.

На працягу года з рабятамі ад трэцяга да выпускнога класаў вялася карпатлівая работа. І вось надыйшоў момант расставання. Да яго былі гатовы як юныя члены школьнага лясніцтва, так і выпускнікі. На выпускным вечары, які праходзіў у СШ № 3 горада, юныя лесаводы давалі наказ сваім старэйшым таварышам і надалей пазнаваць загадкавы свет прыроды:

Ждем лесничих, инженеров,
Всех других, кто заодно
С нашей целью, быть примером
Поколенья своего.

З цёплымі словамі звярнуліся да выпускнікоў, членаў школьнага лясніцтва дырэктар лясгаса Васіль Цярэшчанка, кіраўнік школьных лясніцтваў, інжынер-лесапатолаг лясгаса Ніна Елісеенка. Рабятам былі ўручаны каштоўныя падарункі.

Урачыстасці і ўшанаванні выпускнікоў школьных лясніцтваў прайшлі таксама ў Бялынкавіцкай СШ нашага раёна і Забялышанскай, Ліпаўскай СШ Хоцімскага раёна.

Карпатлівая праца кіраўнікоў школьных лясніцтваў не прайшла дарэмна. 26 выпускнікоў, актыўных членаў школьных лясніцтваў пажадалі звязаць свой лёс з лесам. 9 з іх атрымалі накіраванні ў Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт і 17 – у Полацкі лясны тэхнікум.

**Уладзімір ТАРАКАНАЎ,**
**юрыст лясгаса.**



## Апантаныя кветкамі

Каторы год праходзіць у сценах краязнаўчага музея традыцыйная выстаўка кветак, прысвечаная Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. На гэты раз парадаваць нас сваімі цудоўнымі кветкамі сабраліся кветкаводы-аматары, якія з'яўляюцца пастаяннымі ўдзельнікамі выстаўкі.

Як заўсёды з пакаёвымі раслінамі ў ёй прынялі ўдзел Ніна Арсенцьеўна Прыходзька і Алена Дзмітрыеўна Яўсеенка. Яны прысвяцілі сваё жыццё вырошчванню бегоній. Праўду ж кажуць, што кветкаводству вучацца ўсё жыццё. Так і гэтыя жанчыны спасцігалі сакрэты і асаблівасці догляду за кветкамі на працягу доўгіх гадоў. Таму і квітнеюць без перапынку на вокнах іх кватэр рознакаляровымі яркімі агеньчыкамі бегоніі.

На жаль, сёння радзей сустракаецца ў нашым ужытку прыгожае слова "садоўнік". Сапраўдным садоўнікам, адданым сваёй справе, можна лічыць Віктара Іванавіча Пашкевіча. Усе ведаюць гэтага чалавека, як добрага спецыяліста ў сферы кветкаводства.

Віктар Іванавіч заўсёды памятае, дзеля якой мэты ён гэта робіць. А мэта ў яго самая светлая – прыносіць радасць людзям. Таму і на выстаўцы ён прадставіў любімыя кветкі ўсіх жанчын — ружы некалькіх сартоў.

З ружамі ўдзельнічала ў выстаўцы і Людміла Паўлаўна Бардоўская – загадчыца дзіцячага садка № 9 "Пралеска".

Што дапамагае гэтай прывабнай жанчыне ў яе любімай справе? Напэўна, не толькі ўменне бачыць прыгажосць і жаданне яе ствараць, а яшчэ і нейкая асаблівая любоў да раслін, уменне адчуваць іх, адносіцца, як да жывых істот, разумець, што для іх трэба зрабіць, чаго ім не хапае, — гэтымі якасцямі, згадзіцеся, валодае не кожны чалавек.

Дарэчы, акрамя руж Людміла Паўлаўна парадавала сваіх землякоў і гладыёлусамі, што расквітнелі раней звычайнага.

Хочацца адзначыць, што да пастаянных удзельнікаў выстаўкі кветак пачала далучацца і моладзь. Жанна Глушакова, нягледзячы на свой малады ўзрост, ужо некалькі год займаецца ружамі. Яна даглядае 26 кустоў і марыць папоўніць свой разарый новымі сартамі.

У першы раз прымала ўдзел у выстаўцы кветак Марыя Курносава. Яна таксама вырошчвае ружы, што прыносіць ёй вялікую асалоду і задавальненне.

Традыцыйнай удзельніцай выстаўкі з'яўляецца Тамара Аляксееўна Піскунова. На гэты раз яна здзівіла наведвальнікаў музея незвычайнымі шматгадовымі астрамі і сунічным шпінатам.

З году ў год дэманструюць на выстаўцы свае расліны цэнтральная бібліятэка і аддзел культуры. Дзякуючы пяшчотным жаночым рукам наведвальнікі змаглі ўбачыць разнастайныя прывабныя пакаёвыя расліны.

Некалькі разоў удзельнічалі ў выстаўцы кветак і дзіцячыя садкі – "Сонейка" і "Пралеска". На выстаўку яны прадставілі вялікую разнастайнасць пакаёвых раслін: сенполіі, кактусы, ліяны і многія іншыя.

Сваімі фіялкамі неверагоднай прыгажосці могуць ганарыцца Галіна Мальцава і Людміла Баранава. Якіх толькі сартоў фіялак тут не было! Адрозніваліся яны не толькі колерам, але і выглядам кветачак.

Дарэчы, Галіна Мальцава падарыла ў гэтым годзе музею цудоўныя канны, каб упрыгожваць клумбы.

А ўвагу ўсіх наведвальнікаў прыцягваў, канечне, незвычайны і рэдкі ў нашай мясцовасці цыкламен персідскі. Неверагодны велічыні кветкі-званочкі ўпрыгожвалі сапраўднай каронай гэтую расліну.

Арганізатары выстаўкі вырашылі адысці ад традыцыі вылучаць лепшых і прысуджаць месцы. Пастаянныя ўдзельнікі выстаўкі кветак будуць заахвочаны экскурсійнай паездкай у батанічны сад г. Горкі. Плануецца сустрэцца са спецыялістамі і атрымаць кансультацыю, а таксама паглядзець на дзівосы і экзотыку, што пануюць у батанічным садзе.

**Ірына ПЕТРУСЕВІЧ.**

**На здымку: выстаўка кветак у раённым краязнаўчым музеі. Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

### Лечит морковь...

Недаром у снеговика – нос морковкой. Знает толк в витаминах. Морковь, между прочим, богата не только каротином (витамином А), она показана при бронхитах, отличное противоглистное средство. Но обо всем по порядку.

Что из себя представляет морковка, знает каждый, поэтому перейдем к сути. В медицинских целях используются корень и семена моркови. Корни богаты каратиноидами, витаминами В1 и В2, С, пантотеновой кислотой, эфирным маслом и т.д. Семена содержат до 1,5 процента эфирного масла, флавоноиды и жирное масло.

Свежие корни моркови, богатые витаминами, являются ценной пищей, это во-первых. Во-вторых, тертую морковь можно не только есть: она прекрасное средство при ожогах, в том числе и солнечных. Лечат тертою морковью даже трудно заживающие язвы.

Содержащийся в моркови провитамин А объясняет благоприятное действие сока моркови при катаральных воспалениях бронхов.

Сырая морковь обладает и умеренным глистогонным действием. Особенно это важно для ослабленных детей, которые не могут принимать сильные медикаментозные препараты. Морковь – ценное средство в детской лечебной практике при нарушении питания, особенно в грудном возрасте.

Способ применения моркови очень прост: натереть на терке, выжать сок. Для наружного применения используется кашица из свежей моркови.

## ПОЭЗИЯ

## Новые стихи Василия КОТИКОВА

**ЛЕТНИЙ ВЕЧЕР**

*Под нулёвку, чисто,*
*Косами, не вдруг.*
*Аккуратно, быстро,*
*Весь подстрижен луг.*

*Заливать не буду,*
*Где ни посмотри,*
*Видим копны всюду,*
*Как богатыри.*

*Солнце помогало,*
*Каждый луч сушил.*
*Ветер то ж немало –*
*Сено ворошил.*
*Лёг. Устал бедняга*
*Дал себе "Отбой"*
*Под копну где фляга –*
*С ключевой водой.*

*Речкой золотою*
*Запад весь блестит.*
*Месяц восковою*
*Свечкою горит.*

*Слышен недалеко*
*Тихий скрип колёс.*
*Посмотрел. Высоко*
*Нагрузили воз.*

*Здравствуй вечер летний*
*(Пять за красоту!)*
*Кажется последний*
*С луга я иду.*

**РАНКИ**

*Всё. Забыты ранки,*
*Как здесь не вздыхать.*
*Любки, Райки, Анки,*
*Стали долго спать.*

*А бывало встанешь,*
*(Ой, как хорошо!)*
*И в окошко "глянешь"*
*Солнце спит еще.*

*Слышишь звон доёнок,*
*По селу, всему.*
*Доят все бурёнок*
*Раздаётся: "Му-уу..."*

*Дети то ж не спали,*
*(Не страшил их бес).*
*Быстренько вставали,*
*По грибы шли в лес.*

*А сейчас – поверьте,*
*(Правдой я богат).*
*Взрослые и дети,*
*До обеда спят.*

*Ранок нет, и что же.*
*Стал бедней наш быт.*
*Сколько счастья, боже,*
*Кануло в небыт.*

**ТРИ РАДУГИ**

*Три радуги – вот это класс!*
*Видел я только что сейчас.*
*Кому я не скажу об этом,*
*Все говорят, что я... с приветом.*

*"Три радуги, скажи откуда,*
*Такого не бывает чуда.*
*Одну. Ну, две, туда-сюда.*
*А чтобы три, нет никогда".*

*Да, да друзья, я не соврал,*
*Две в небе радуги видал.*
*(Поклясться головой готов)*
*И на лугу одну... с цветов.*

**ПОМНЮ**

*Помню былей много,*
*Я как чародей.*
*Помню как с ночного*
*Вели лошадей.*

*Помню – знаю ранки.*
*Сам вставал, не ложь.*
*Помню козы – санки,*
*"Катеринку" тож.*

*Помню как записку*
*Первую писал.*
*Как чернила миску*
*Полную списал.*

*Помню былей много,*
*Я как чародей.*
*Отдохнем немного,*
*Грусть смахну с очей.*

***Июль, 2000 г.***

## ИДЕИ

### Пробки против мышей

Нарезанную мелко новую пробку поджаривают со старым соленым свиным салом, пока не станет темно-коричневой. Раскладывают крошки там, где водятся мыши, рядом ставят воду. Наевшись пробки с соленым салом и напившись воды, мыши подохнут от разбухшей в желудке пробки.

Этот метод лучше, чем использование крысиных ядов, потому что безопасен для домашних животных.

### Горошек на елке

Если есть у вас клумба у порога, тем более сад-огород, не сжигайте отслужившую праздничные дни новогоднюю елку. Пусть она осыплется. Весной воткните ее в центр цветочной клумбы и обсадите душистым горошком. Особенно красиво будет, если предварительно ошкуренные стволик и ветки покрасить серой или зеленой краской. На симметрично подрезанных ветках елового деревца горошек находит удобную для себя опору и быстро заплетает их. Вид такой цветущей пирамиды весьма эффектен.

## АМАТАРЫ СПОРТУ

# СЯМЕЙНЫ "КВАРТЭТ"

Можна прыводзіць нямала прыкладаў, калі ў сям'і бацькоў-музыкантаў і дзеці кампазітарамі вырастаюць. Гэтак жа ў мастакоў, вучоных, хлебаробаў. Нярэдка цэлыя дынастыі будаўнікоў, майстроў ідуць па бацькоўскай лініі ў той ці іншай галіне гаспадаркі. А вось каб было сямейным захапленне настольнымі гульнямі, у прыватнасці, шахматамі і шашкамі, згадзіцеся, прыкладаў прывядзеш не вельмі. Тым больш, у такім невялікім горадзе, як Касцюковічы.

Пра сям'ю Гіркіных патрэба расказаць узнікла пасля ўрачыстасцей, прысвечаных Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. На гарадскім стадыёне было наладжана вялікае спартыўнае свята, у ліку іншых гульняў, праводзіўся турнір па шахматах і шашках. Першае месца па шахматах заняў старшы сын Гіркіных – Валерый. І невыпадкова. Валерый у 1998 годзе скончыў СШ № 1 і паступіў на вучобу ў Магілёўскую тэхналагічную акадэмію. Зараз ён студэнт трэцяга курса. Перамога яго стала вынікам папярэдняй падрыхтоўкі. Ён быў чэмпіёнам раёна сярод юнакоў. Дарэчы, Валерый выканаў нарматыў майстра спорту па дзюдо, але знаходзіць час і для занятка шахматамі.

У турніры ўдзельнічаў і малодшы брат Валерыя – Аляксандр, вучань 11 класа СШ № 1. Ён наведвае шахматны гурток пры Цэнтры дзіцячай творчасці. На раённых спаборніцтвах, якія праходзілі ў студзені-лютым г.г., выканаў нарматыў 2-га разраду па шахматах сярод дарослых. Удзельнічаў у абласных спаборніцтвах, па праграме спартакіяды школьнікаў, ад нашага раёна.

Рэгулярна наведвае заняткі ў шахматным гуртку пры Цэнтры дзіцячай творчасці сястра Валерыя і Аляксандра – Ірына. Яна вучаніца 5-га класа. Паказвае добрыя вынікі ў групе. У турніры яна заняла 3-е месца і ўзнагароджана Дыпломам адпаведнай ступені.

Прыемна адзначыць, што ў нашым горадзе нямала аматараў, на першы погляд простай, шашачнай гульні, якой уласцівы складанасць і глыбіня. Бацька сям'і – Віктар Аляксеевіч – перакананы, што той, хто здолее ўнікнуць у змест, раскрые тонкія пазіцыйныя і камбінацыйныя прыёмы барацьбы, становіцца прыхільнікам шашачнай гульні назаўсёды. Такой прапісной ісціны прытрымліваецца і сам. В. А. Гіркін у свой час скончыў Мокраўскую дзесяцігодку, служыў у арміі, вучыўся ў інстытуце, працуе начальнікам гаспадарча-разліковага будаўнічага ўчастка і за гэты час ніколі не ўпускаў моманту згуляць у шашкі. Праявіў ён інтарэс да іх яшчэ ў школе, калі абыйграў сваіх аднакласнікаў. Потым пачаў гуляць з настаўнікам Беляўцовым. Пасля гульні з ім адчуў, што здольны на большае. Паказаў гэта і прайшоўшы турнір, дзе Віктар Аляксеевіч заняў 2-е месца.

У сям'і Гіркіных ёсць неабходная літаратура па шахматах і шашках. Словам, балельшчыцай можа быць толькі маці – Валянціна Паўлаўна, а бацька і дзеці могуць скласці "квартэт" ігракоў.

**Іван ФАЕНКА,**
**кіраўнік шахматна-шашачнага гуртка пры Цэнтры дзіцячай творчасці.**

## СОВЕТУЕТ ВРАЧ

# Можно ли избежать болезней?

Неожиданно вы обнаруживаете, что ваш ребенок нездоров. Считая основной причиной болезни переохлаждение или недосмотр за ребенком, вы начинаете укорять других членов семьи или обвинять работников детского учреждения. На самом же деле заболевание возникает в результате воздействия на ребенка целого ряда факторов. И зачастую бывает невозможным установить, какой из них является главным. Человек постоянно соприкасается с микроорганизмами, вирусами и прочими болезнетворными агентами, но при этом далеко не всегда заболевает. Однако бывает достаточно небольшого переутомления, неправильного питания или еще какого-то снижающего защитные силы организма фактора – и вот уже развивается болезнь. Что нужно знать, чтобы уберечь ребенка от болезней? На этот вопрос хорошо ответить можно так: большинство болезней можно избежать правильным воспитанием и уходом за ребенком. Ведь известно, чем больше заниматься здоровым ребенком, тем меньше времени уйдет на уход за больным. Хочется напомнить некоторые прописные истины.

1. Содержите своё жилье в чистоте и порядке. Научите ребенка правилам личной гигиены.
2. Кормите и одевайте ребенка, а также постройте его режим дня так, как рекомендует педиатр.
3. Закаливайте своего ребенка, занимайтесь с ним гимнастикой.
4. Старайтесь как можно больше бывать с ребенком на свежем воздухе.
5. Если в доме новорожденный, не приглашайте в дом гостей и сами не ходите в гости с ребенком.
6. Не ведите ребенка в места большого скопления народа в период распространения вирусных заболеваний.
7. Старайтесь всячески избегать контакта с больными.

И если вы будете соблюдать эти простые правила, ваш ребенок будет расти крепким и здоровым.

**Жанна ЗЕЙНАЛОВА,**
**врач-педиатр поликлиники.**

## *Поздравляем!*

*Сердечно поздравляем инспектора РОО*
***ТИХОНОВУ***
***Тамару Прохоровну***
*с 55-летием со дня рождения*

*У Вас сегодня юбилей*
*И мы от всей души желаем*
*Прожить Вам много-много лет,*
*Печали, горести не зная.*
*Пусть не пугают Вас года –*
*Еще их много в жизни будет,*
*Пусть будут в спутниках всегда*
*Доброжелательные люди.*
*Пусть ангел Вашу жизнь хранит,*
*Ведь в жизни всякое бывает,*
*Пусть горе в двери не звонит,*
*А радость Вас не забывает.*

***Педколлектив СШ № 2.***

Х Х Х

*Горячо и сердечно поздравляем с 50-летием со дня рождения*
***КИЛУНОВА***
***Бориса Ароновича***

*Пусть в этот день засветит ярче солнце*
*И радость жизни пусть закроет тьму.*
*И пусть здоровье будет лучшим из подарков.*
*А всё хорошее приложится к нему.*
*Хочется Вам в этот день пожелать:*
*Не болеть, не грустить, не скучать*
*И ещё много раз дни рожденья встречать.*

***Коллектив отделения Белгосстраха по Костюковичскому району.***

# *ЯК СУСЕД ЖУКОЎ "ГАНЯЎ"*

## ЖАРТЫ ДЗЕДА КУЗЬМЫ

Неяк з ранку дзед Кузьма, заправіўшы апырсквальнік ядахімікатамі, прайшоўся па бульбяных сотках, бо не было ўжо больш сілы змагацца з навалай каларадскага жука. А надвячоркам, узяўшы слоік, вырашыў прайсціся, паглядзець вынікі сваёй працы. "Ці даняло іх, праклятых на гэты раз? Няма ўжо цярпення з імі змагацца..." – бурчаў сам сабе пад нос стары Кузьма. Не паспеў ён прайсці 2-3 радкі, як з работы вярнуўся сусед Іван.

— Прывітанне, Мацвеевіч! — звярнуўся ён да старога. – Ну, як жукоў шмат на тваёй бульбе?

— Ды не, — бойка адказаў стары. Я ведаю добры сродак як ад гэтага шкодніка пазбавіцца.

— А я гляджу твая, дзядуля, бульбачка зялёненькая, не з'едзеная, падзяліся сакрэтам па-суседску.

Іван быў намнога маладзей дзядулі Кузьмы, таму паверыў і з нецярплівасцю чакаў, пакуль той распачне расказваць пра меры барацьбы з каларадскімі жукамі.

— Ты ж ведаеш, Іван, што лясныя мурашкі моцныя і ядуць розных вусеняў. Вось яны ўдваіх грузяць на свае плечы аднаго жука і цягнуць у мурашнік.

— Вось колькі жыву не ведаў такога дзіва, — зацікавіўся сусед паведамленнем старога.

— Такім чынам і я пазбавіўся ад гэтага шкодніка на сваім участку, — прамовіў стары, — цяпер правяраю, ці эфектыўны гэты спосаб. Пераканаўся, што лепей і не бывае.

Сусед уважліва выслухаў старога, на гэтым і разышліся. Кузьма працягваў свой занятак, а калі пачало цямнець, накіраваўся дахаты. Не паспеў расчыніць сенцы, як на двор забягае Іван. І яшчэ ад веснічкаў пачаў сварыцца:

— Абвёў мяне, як хлопчыка, стары пень!

— Што здарылася? — Не зразумеў адразу дзядуля.

— Прывёз я, як ты і гаварыў, на агарод два мяшкі мурашак, высыпаў іх на радкі з бульбай...

— І што?

— Што? — Што?.. Яны з агарода ды ў хату прыпаўзлі. Жонка мяне за гэта ледзь віламі не забіла, калі даведалася, што гэта я іх прывёз! — Зло крычаў Іван. А Кузьма ўважліва слухаў яго і ўсміхаўся ў пышныя вусы.

— А ты якіх мурашак прывозіў з чырвонымі галовамі? — пацікавіўся стары сусед.

— З чырвонымі, — перавёў дыханне Іван.

— Вось цяпер усё і зразумела. Трэба ж было выбраць мурашак з чорнымі галовамі, — з усмешкай сказаў Кузьма.

**Эдуард ВАЛУЧАЎ.**



# *"ГОСТИ" МЕДВЫТРЕЗВИТЕЛЯ*

## В ИЮНЕ 2000 ГОДА

Лавников В. В., 1965 г.р., пер. Юношеский; Викторенко А. В., 1967 г.р., м-н "Молодежный"; Богачев В. М., 1959 г.р., д. Смольки; Агеев В. Н., 1948 г.р., м-н "Молодежный"; Федоренков А. В., д. Демидовичи; Подобед П. И., 1946 г.р., м-н "Молодежный"; Кучерявый Л. М., 1969 г.р., д. Пролетарское; Белевцов Н. Н., 1967 г.р., пос. Б. Крапивня; Каплунов В. И., 1965 г.р., ул. Ленинская; Савицкий В. И., 1965 г.р., ул. Ленинская; Семочкина Т. Ф., 1953 г.р., ул. Сосновая; Дмитроченко Н. Н., 1970 г.р., д. Бороньки; Белан А. И., 1953 г.р., д. Пань-Буда; Макарчук С. П., 1957 г.р., д. Прусинская Буда; Листопадов А. Н., 1964 г.р., ул. Зиньковича; Усов Ю.Д, 1965 г.р., д. Студенец; Сударев В. В., 1952 г.р., ул. Мира; Горовцов Г. Я., 1959 г.р. ул. Студенецкая; Гаврюченко В. В., 1967 г.р., м-н "Молодежный; Марченко А. И., 1962 г.р., ул. Школьная; Лебедев Ю. Н., 1968 г.р., ул. Комсомольская; Буздык Н. В., 1960 г.р., пер. Юношеский; Толкачев В. Н., 1970 г.р., пер. Юношеский; Кирейков Ф. Е., 1954 г.р., ул. М. Горького; Марченко А. В., 1969 г.р., ул. Зиньковича; Кузьмин А. П., 1978 г.р., ул. Камарова; Чертопалов А. Н., 1972 г.р., м-н "Молодежный"; Герман Л. Н., 1942 г.р., ул. Юношеская; Песенко А. В., 1967 г.р., м-н "Молодежный"; Ларченко С. Л., 1966 г.р., ул. Пролетарская; Сельданов И. Н., ул. Мира; Герасименко В. Я., 1939 г.р., ул Юношеская; Галайда А. В., 1975 г.р., ул. М. Горького; Маненок В. К., ул. Ленинская; Ерапуткин В. И., 1959 г.р., д. Липовка; Савченко Н. Н., 1955 г.р., м-н "Молодежный"; Борисенко В. Н., 1960 г.р., ул. Ленинская; Игнатенко С. Н., 1952 г.р., ул. Энергетиков; Семенов С. О., 1975 г.р., м-н "Молодежный"; Минченко В. Н., 1959 г.р., д. Б. Дуброва; Крисанов Н. И., 1970 г.р., м-н "Молодежный"; Добрышев О. В., 1967 г.р., ул. Олимпийская; Ковалев И. Н., 1966 г.р., д. Белынковичи; Белаус В. И., 1961 г.р., м-н "Молодежный"; Казаков В. В., 1970 г.р., д. Н. Самотевичи; Мартыненко Л. П., 1965 г.р., ул. Комсомольская; Павлюченко П. В., 1971 г.р., д. Вишеньки; Морозов И. И., 1942 г.р., пер. Юношеский; Михальченко М. Н., 1940 г.р., д. Вишеньки; Мерзико М. В., 1952 г.р., ул. Ленинская; Недогарок В. С., 1952 г.р., м-н "Молодежный"; Шунькин А. Л., 1974 г. р., д. Муравилье; Богачев П. Н., 1955 г.р., ул. Зиньковича; Боровцов А. А., 1962 г.р., ул. Зиньковича; Подобед П. Н., 1975 г.р., ул. М. Горького; Исаков С. А., 1971 г.р., м-н "Молодежный"; Гаев А. П., 1957 г.р., пер. Коммунарский; Голочевский П. О, 1961 г.р., ул. Зиньковича; Фролов А. И., 1951 г.р., ул. Мира; Радченко А. П., 1952 г.р., ул. Интернациональная; Доянов В. Г., 1966 г.р., м-н "Молодежный"; Соколов В. М., 1957 г.р., ул. Ленинская; Агеенко А. М., 1960 г.р., д. Вишеньки; Кротов В. И, 1957 г.р., м-н "Молодежный"; Листопадов И. И., 1968 г.р., ул. Юношеская; Остриков Б. М., 1946 г.р., д. Кубраковка; Клименков В. Л., 1970 г.р., д. Прусино; Карпенко Н. М., 1979 г.р., м-н "Молодежный"; Савостин А. В., 1972 г.р., м-н "Молодежный"; Иваненко Н. М., 1956 г.р., ул. Колхозная; Куприянов И. Г., 1941 г.р., пос. Строителей; Расторгуев В. Н., 1952 г.р., ул. Октябрьская.

**Надежда ЧЕКЕД,**
**начальник медвытрезвителя.**

## ВЕСНІК ІНФАРМАЦЫІ БЕЛТА

### ВІЦЯЗЬ НАБЛІЖАЕЦЦА ДА СУСВЕТНЫХ СТАНДАРТАЎ

Работу па забеспячэнню адпаведнасці міжнароднаму экалагічнаму сертыфікату ІСО-14000 пачало вытворчае аб'яднанне "Віцязь".

Адпаведнасць гэтаму стандарту азначае бяспеку прадпрыемства для персаналу, людзей, якія жывуць паблізу, навакольнага асяроддзя. На ўкараненне мерапрыемстваў па выкананню ўмоў сертыфікавання спатрэбіцца амаль паўтара года. Не выключана, што працэдура пацвярджэння адпаведнасці сертыфікату будзе праходзіць у Жэневе. Трэба адзначыць, што "Віцязь" аказаўся сярод першых прадпрыемстваў рэспублікі, якія прэтэндуюць на стандарт серыі ІСО-14000. Вынікам гэтай работы будуць не толькі паляпшэнне ўмоў працы, быту працаўнікоў і экалагічны эфект, але і дадатковыя шанцы для выхаду на еўрапейскія рынкі прадукцыі прадпрыемства.

### УЗРОВЕНЬ БЕСПРАЦОЎЯ ЗНІЖАЕЦЦА

З пачатку года ў працаўладкаванні мелі патрэбу 229 тысяч грамадзян рэспублікі. Больш як 85 працэнтаў з іх былі беспрацоўныя. Дзяржаўная служба занятасці дапамагла атрымаць пастаянную работу 77 тысячам беспрацоўных. Такія даныя прывёў старшыня камітэта па занятасці насельніцтва, намеснік міністра працы Дзмітрый Ванееў. Паводле яго слоў, у рэспубліцы з кожным годам усё больш людзей знаходзяць сабе работу, напрыклад, калі тры гады таму працаўладкоўвалі 35 працэнтаў тых, хто звяртаўся ў службы занятасці, то на працягу толькі першага паўгоддзя 2000 года работу пры іх дапамозе атрымалі 45 працэнтаў беспрацоўных.

**Костюковичское предприятие по обеспечению нефтепродуктами** переименовывается в ***Республиканское унитарное предприятие по обеспечению нефтепродуктами "Костюковичинефтепродукт"***.

**Коллектив работников райветлаборатории выражает глубокое соболезнование ветврачу радиологу ПОЛУНЧЕНКО Николаю Павловичу в связи с тяжелой утратой – безвременной смертью СЕСТРЫ.**


**Галоўны рэдактар Мікалай ДЗЯТЛАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

*ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ*

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43*
*Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*галоўны рэдактар -- 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі -- 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.*

*Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.*
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1528 экземпляраў*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 18. 07. 2000 г. 18.00*
*Заказ № 55*

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.**